# ПАГОНЯ

Аўторак
23 сакавіка 1999 г.
№ 20 (397)
Кошт 15.000 руб.

## У «аўтагоншчыкаў» забралі 2,5 мільярда

**У адпаведнасці з матэрыяламі Упраўлення КГБ па Гарадзенскай вобласці, падатковымі органамі былі праведзены праверкі выканання падатковага заканадаўства фізічнымі асобамі, якія займаюцца ўвозам з-за мяжы і продажам на тэрыторыі рэспублікі аўтамабіляў.**

Як паведамілі ў Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў КГБ Беларусі, у выніку праверак былі выяўлены 40 жыхароў вобласці, што ажыццяўляюць незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць, з якіх спаганыя няўплачаныя падаткі на суму каля 2,5 мільярда рублёў.

Міжраённым аддзяленнем Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў распачата 11 крымінальных справаў.

**Алег Сакалоў**

## Кожнаму наркаману - асобны шпрыц !

**На Гарадзеншчыне зарэгістравана каля 300 наркаманаў. Спецыялісты раяць памножыць гэтую лічбу як мінімум на дзесяць, каб мець больш-менш рэальнае ўяўленне аб колькасці хворых. У вобласці выяўлена 15 ВІЧ-інфікаваных, палова з якіх ўжывае наркатычныя сродкі.**

Спецыялісты гарадскога наркадыспансера лічаць, што праблему ў пэўнай ступені вырашаюць пункты бясплатнага ананімнага абмену аднаразавых шпрыцоў, а таксама медычных іголак. Менавіта такі цэнтр адкрыты днямі ў Гродна.У такім асяродку будзе праводзіцца таксама прафілактычная работа. Застаецца самае малое - дачакацца наркаманаў.

Аналагічныя пункты мяркуецца адкрыць ў Лідзе, Слоніме, Ваўкавыску.

**Уладзімір Кавалёў**

## Ваўкавыск і Ліда - лідары малой прыватызацыі

**Паводле дадзеных Міжнароднай фінансавай карпарацыі, якая ажыццяўляе доўгатэрміновы праект «Малая прыватызацыя на Беларусі», лідарам працэсу прыватызацыі аб'ектаў гарадской камунальнай уласнасці па-ранейшаму з'яўляецца горад Ваўкавыск, дзе па стану на 15 сакавіка было перададзена ў прыватныя рукі 77 працэнтаў аб'ектаў.**

Сярод раённых цэнтраў працэс малой прыватызацыі актыўна ідзе таксама ў Лідзе — 64 працэнты аб'ектаў, Кобрыне — 59, Баранавічах — 58 і Оршы — 57.

Сярод абласных цэнтраў найбольш высокія тэмпы перадачы аб'ектаў гарадской камунальнай уласнасці ў прыватныя рукі зафіксаваны ў Магілёве — 63 працэнты і Гродне — 62. У Менску прыватызавана 55 працэнтаў аб'ектаў, Брэсце — 52, Гомелі — 47, Віцебску — 37.

Трэба адзначыць, што яшчэ пяць месяцаў таму ў Гродне было прыватызавана ўсяго 38 працэнтаў аб'ектаў камунальнай уласнасці.

Усяго ж за шэсць гадоў рэалізацыі праграмы «Малая прыватызацыя на Беларусі» на 361 аўкцыёне, які праведзены пры тэхнічнай падтрымцы Міжнароднай фінансавай карпарацыі, было прыватызавана 658 аб'ектаў камунальнай уласнасці на агульную суму 523 мільярда рублёў (17,4 мільёна даляраў у пераліку па курсе на момант аўкцыёну).

**Дзмітрый Уласаў**




**24 і 25 сакавіка** - пераменная воблачнасць, невялікія ападкі. Вецер заходні, слабы. Тэмпература паветра ўначы -1...-3, удзень 0...+3.



## Патопу на Гарадзеншчыне не будзе. А вось Палессе - ужо «плавае»

Камісія па надзвычайных сітуацыях Гарадзенскага аблвыканкама правяла нараду, дзе прагучала інфармацыя аб паводкавай сітуацыі ў рэгіёне. Супрацоўнікі ведамства каля 300 разоў выязджалі на месцы, каб увачавідкі пераканацца ў стане справаў. Праводзіліся кантрольныя аблёты тэрыторыі. Падставы дмя хвалявання дае неспакойны нораў бацькі-Нёмана. У раёне вёскі Дубна Мастоўскага раёна рака наблізілася да бліжэйшых пабудоваў на небяспечную адлегласць - пяць-сем метраў. Каб адвесці пагрозу, вырашана на гэтым участку спраміць рэчышча. Спатрэбіцца па-над сто мільярдаў беларускіх разліковых білетаў. Надзея ўскладаецца на мясцовы бюджэт і на дапамогу з боку ўрада краіны. Часткова эвакуяваны жыхары вёсак Шашалі і Узні Дзятлаўскага раёна. Людзі знайшлі прытулак ў суседнім Парэччы. З набліжэннем вялікай вады магчымы праблемы ў гарадскім пасёлку Любча і вёсцы Дзяляцічы, што на Навагрудчыне.

А вось у палескіх раёнах Гомельскай вобласці паводкавае становішча ўскладняецца . Так, у Жыткавіцкім раёне, які больш за астатнія падвергся затапленню ад разлітай Прыпяці, узровень вады ў рацэ дасягнуў 630 см, што на 20 сантыметраў вышэй за ўзровень, зарэгістраваны ў апошнюю вялікую паводку ў 1979 годзе. У выніку затопленай аказалася ўся правабярэжная частка Жыткавіцкага раёна (**на здымку**). Як паведамілі ў абласным штабе грамадзянскай абароны, бліжэйшымі днямі паступленне вады ў Прыпяць будзе працягвацца за кошт таго, што інтэнсіўна спадае водны ўзровень у яе прытоку — рацэ Гарынь, якая бярэ пачатак у Карпатах. Вада, што прыбывае ў Прыпяць, пагражае Петрыкаўскаму раёну, частка якога (Снядзінскі сельсавет) ужо адрэзана ад «вялікай зямлі», а таксама Мазырскаму, Калінкавіцкаму і Нараўлянскаму раёнам, дзе ўжо распачата эвакуацыя асобных сем'яў, што жывуць у паводкаванебяспечнай зоне. Адначасова паляпшаецца становішча ў Лельчыцкім і Ельскім раёнах вобласці. Аднак, як мяркуюць у абласным штабе ГА, улады гэтых раёнаў некалькі завышалі дадзеныя па ўзроўню вады, каб не быць выключанымі з ліку пацярпелых і не пазбавіцца выдаткоўваемых аблвыканкамам на правядзенне супрацьпаводкавых мерапрыемстваў грашовых сродкаў, гаручага і будматэрыялаў.

**Ірына Макавецкая, Антон Лабовіч**

## Хто пан, а хто і не

**Што змянілася з тых часоў, як Беларусь стала незалежнай? Толькі што рост злачыннасці, шалёны рост цэнаў і неабмежаваная ўлада чыноўнікаў зверху і данізу.**

Мы выбіралі Вярхоўны Савет, якіператвараўся ў прадстаўнікоў палаты Нацыянальнага сходу. Нас колькі ўжо разоў прасілі: пацярпіце ды пацярпіце. Мы цярпелі, але дакуль можна цярпець? Ужо пяты год пайшоў, і канца гэтаму няма, увесь час жыццё пагаршаецца.

Мы з жонкай жывем удваіх. Пенсію ў студзені атрымалі ў памеры 7,2 мільёна рублёў. І ледзь звялі канцы з канцамі да чарговай пенсіі ў лютым. І гэта пры тым, што ў нас свая агародніна. Ужо даўно забыліся, які смак рыбы, каўбасаў ды іншых прадуктаў. Замест малака бярэм у тыдзень 12 літраў маслянкі. Калі так будуць расці цэны, то з цягам часу будзем есці шылам, таму што відэльцы не спатрэбяцца.

Урад разам з прэзідэнтам радуюць нас, што падвышаюць пенсіі. Але як? У лютым яе падвысілі крыху больш як на 25 працэнтаў, а кошты на неабходныя прадукты ўзраслі ў 2-3 разы. Цяпер пенсіі ў сакавіку падвысяць на 12,4 працэнта. І што гэта дасць? Анічога. Таму што дзяржава дасць прыбаўку на 12,4 працэнта, а забярэ падвышэннем цэнаў у 3-4 разы болей. Нават цяжка ўявіць, як жывуць (ці выжываюць?) шматдзетныя сем'і і тыя, хто атрымлівае мінімальную пенсію.

Цяпер прадстаўнікі Нацыянальнага сходу збіраюцца абмяркоўваць законапраект «Аб ветэранах», у якім прадугледжана зняць ільготы на лекі і праезд у пасажырскім транспарце. Гэтым дзяржава паскорыць выміранне ветэранаў, бо яны змогуць купіць за сваю жабрацкую пенсію штосьці адно - лекі ці харчаванне.

Пазбавіць ільготаў ветэранаў на праезд можна. А чаму ж тады спадары дэпутаты з Палаты Нацыянальнага сходу не паездзяць у грамадскім пасажырскім транспарце? Няхай пабачылі б, як «просты рабочы», плаціць грошы за праезд, едучы на працу, а там, узяўшы ў рукі лом ці кувалду, працуе да сёмага поту. І пры гэтым зарабляе смехатворны заробак за працу. У той час, калі паны-дэпутаты прызначаюць сабе аклады ды іншыя ільготы. І не сакрэт, што многія дэпутаты Нацыянальнага сходу атрымліваюць да таго ж не малую заробную плату на сваёй асноўнай працы, хаця там іх рэдка ўбачыш.

Я ўсё думаю, чаму так павялічыліся падаткі ды іншыя паборы з насельніцтва. Прыдумалі абавязковае страхаванне не толькі нерухомай маёмасці, але і транспарту, затым розныя спагнанні ды штрафы. Відавочна, каб стварыць больш адміністратыўны апарат, нарадзіць больш чыноўнікаў, якія ж таксама хочуць есці, ды пасмачней.

**Ільля Барысаў**

## Не сядзіцца...

**У калонію вольнага пасялення, што знаходзіцца паблізу пасёлка Гезгалы Дзятлаўскага раёна, перыядычна пераводзяць асуджаных з Ваўкавыскай калоніі.**

Такія льготы асуджаным даюцца за прыкладныя паводзіны. Аднак ім там не сядзіцца. Карыстаючыся тым, што пасяленцы знаходзяцца без пільнага кантролю, некаторыя з іх учыняюць рэйды па падвалах, магазінах, адкуль крадуць усё, што трапляе пад рукі.

**Леанарда Юргілевіч**

## Права на жыллё — за кратамі

**Грамадзянін Літвы Эдмундас Карапінскас жыў на Зэльвеншчыне без права на жыхарства.**

За што ён неаднаразова атрымліваў папярэджанні ад праваахоўных органаў і некалькі разоў быў асуджаны.

Нядаўна інспектар пашпартна-візавай службы Уладзімір Клімук зноў перадаў справу Э.Карапінскаса ў Зэльвенскі народны суд, які прыгаварыў грамадзяніна суседняй дзяржавы да аднаго года пазбаўлення волі.

**Антон Рачок, «ГС»**

## Ці будзе давер людзей да ўлады?

**Абласное ўпраўленне статыстыкі паведаміла аб рабоце народнай гаспадаркі Гарадзеншчыны за мінулы год. Прааналізаваны стан прамысловасці, сельскай гаспадаркі, будаўніцтва, транспарту і сувязі, знешняга гандлю, спажывецкага рынку і сферы паслуг, фінансаў, занятасці насельніцтва, прыватызацыі жылля, заробнай платы...**

Паказчык «Дэмаграфічная сітуацыя» змешчаны апошнім. Між тым, гэты раздзел справаздачы вызначае сацыяльна-эканамічнае развіццё вобласці, дазваляе зазірнуць у будучыню. З 1994 года насельніцтва скарацілася на 24,2 тысячы чалавек. Паводле папярэдніх дадзеных, летась нарадзілася 11202 чалавекі, а памерла - 16589. Асноўнымі прычынамі, якія прыводзяць да смяротнага зыходу, з'яўляюцца хваробы сістэмы кровавароту, новаўтварэнні, хваробы органаў дыхання. Перавышэнне колькасці памерлых над народжанымі назіраецца ва ўсіх сельскіх раёнах. Павялічылася колькасць самагубстваў - 394, атручвання алкаголем - 361. У выніку дарожна - транспартных здарэнняў загінула 290 грамадзян. На тысячу зарэгістраваных шлюбаў прыходзіцца 530 разводаў.

На жаль, статыстыка не прыводзіць колькасць работнікаў, занятых адпаведна ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы Гарадзеншчыны. Колькасць пенсіянераў складае 329 тысяч чалавек з агульнай лічбы насельніцтва вобласці 1 185 800. Такі дэмаграфічны расклад вельмі небяспечны, калі ўлічыць перавышэнне смяротнасці над нараджальнасцю і той факт, што найбольш паміраюць асобы ў працаздольным узросце.

Прычыну гэтага трэба шукаць у значным пагаршэнні ўзроўню жыцця. Асабліва ў гады прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. 90 працэнтаў жыхароў краіны па сутнасці з'яўляюцца жабракамі. Харчуюцца, чым Бог пашле. Пастаянныя стрэсы. Адсюль і хваробы. Гарадзеншчына выхваляецца сваімі дасягненнямі ў ахове здароўя. Тады чаму, як мухі, паміраюць людзі? Моцная медыцына не настолькі лечыць, наколькі ставрае ўмовы, каб чалавек не хварэў. Так пастаўлена справа, напрыклад, у Англіі. У нас за дасягненне падаецца павелічэнне койкамесцаў.

Па-ранейшаму, на першы план ставім працэнты, вытворчасць, аб'ёмы, валавыя зборы сельгаспрадукцыі. Чалавека не заўважаем. Усё, як пры сацыялізму. Урэшце, на Беларусі ён і не знікаў.

**Сцяпан Ярашчук**

ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Таталітарызм і «інтэграцыя»

**Стала звычайнай справай спасылацца на тое, што ў Беларусі усталяваны таталітарны рэжым. Дэмакраты гераічна вызначаюць і бэсцяць праявы гэтага рэжыму. Аднак рэдка хто заглядвае за рамкі пабудовы дзяржаўнага ладу ды спрабуе спасцігнуць сутнасць таталітарнага рэнесансу. Бо таталітарызм ёсць не столькі мэта, колькі сродак.**




## Таталітарны выбар

Некалі бальшавікі, якія імкнуліся рэалізаваць такую прыгожую мэту, як усеагульная роўнасць і неабмежаваны дабрабыт, пабудавалі ў выніку дзяржаўны лад, які галоўнай сваёй задачай меў знішчэнне людзей па палітычных матывах. А ўсё з-за таго, што пастаўленая імі мэта не магла быць здзейснена, што яе здзяйсненню супраціўлялася само жыццё. Бальшавікі думалі, што гвалтам прымусяць жыццё змяніцца. Марна.

Так і сёння: таталітарызм адраджаецца ў Беларусі не сам па сабе, а пад пэўную ідэю і мэту. Мэта гэтая завецца «інтэграцыя».

«Інтэграцыя» азначае аднаўленне расійска-савецкай імперыі і захоп у ёй улады беларускай элітай. Вядома, што мэта гэтая надзвычай фантастычная, нерэальная, утапічная, казачная. Увасобіцца ў рэальнае жыццё яна не можа. Беларуская ўлада, хочаш не хочаш, павінна альбо адмовіцца ад мэты, альбо спрабаваць увасобіць яе ў жыццё прымусова, калі трэба - то гвалтам.

## Дыялектыка «інтэграцыі»

Такой з'яўляецца дыялектыка «інтэграцыі». Натуральная жыццёвая плынь адкідвае штучную мэту аднаўлення імперыі. Пры дэмакратыі шанцы на «інтэграцыю» ў беларускага кіраўніцтва нулявыя. Такім чынам, беларускае кіраўніцтва выбірае таталітарызм.

Таталітарызм развіваецца з непазбежнай паступовасцю, па меры таго, як усё больш крокаў робіцца, як усё больш намаганняў прыкладаецца да дасягнення ўтапічнай мэты. Гэта як немцы думалі пад Сталінградам: яшчэ адзін-два батальёны, тысяча-другая снарадаў - і перамога.

Беларускае кіраўніцтва ўсё больш намагаецца, але ягоная мэта ад гэтага робіцца ўсё далей, бо ніякі СССР адрадзіць немагчыма з тае прычыны, што ён нікому не патрэбны. Нікому не патрэбная правінцыйная беларуская наменклатурная шляхта са светапоглядам калгаснага паганялы. Але самапальным правадырам, з аднаго боку, вельмі хочацца, а з другога - шкада выдаткаваных высілкаў. Ім здаецца: яшчэ адзін дэкрэт, яшчэ адна паездка ў Расію, яшчэ адна забарона, яшчэ адна крымінальная справа, яшчэ адна нарада, яшчэ адно TV-шоу - і пасядуць у крамлёўскія крэслы, каб кіраваць удзячнымі народамі брацкага славянска-цюркскага паходжання.

## Канец авантуры

Усё гэта не што іншае, як класічная авантура. Яна змагла стаць масавай ідэалогіяй толькі ва ўмовах дэзарыентацыі некаторых людзей, якія не ў стане зразумець навакольны свет і мэнчацца ў шматгадовай разгубленасці. Толькі дзякуючы неразуменню мас уладзе ўдалося праводзіць эканамічную палітыку «размеркавання нястачы». Гэта азначае наступнае: эканоміка слабая і не можа забяспечыць дабрабыт народа, даць сродкі на правядзенне знешняй палітыкі. У такіх умовах народу пакідаюць мінімум неабходнага, а астатнія сродкі канцэнтруюць на галоўным напрамку. Так што, пакуль беларускае кіраўніцтва будзе рухаць «інтэграцыю», датуль працоўныя не выберуцца з жабрацтва.

На «інтэграцыю» скіравана ўсё: прапаганда і сельская гаспадарка, ідэалагічная вертыкаль і медыцына, СМІ і войска... «Інтэграцыя» здольна высмактаць з краіны ўсе сокі, але выніку, карыснага народу, не будзе ніколі. І наадварот, адмова ад фантастычнай мэты пацягне за сабой натуральнае развіццё грамадства, увальле ў яго здаровыя жыццёвыя сілы, скіне нахлебнікаў-камісараў, заменіць непісьменных хамаў на адукаваных менеджэраў, здыме міжнародную ізаляцыю, надасць людзям годнасці і пазбавіць страху. Рэсурсы краіны будуць скарыстаны для развіцця эканомікі, а не на бессэнсоўнае марнатраўства.

Такім чынам, «інтэграцыя» - бяда нашага народа.

**Сяргей Самасей**

# Угодкі БНР адсвяткуем 28-га

**Менгарвыканкам даў дазвол Беларускаму Народнаму Фронту на правядзенне 28 сакавіка шэсця і мітынгу з нагоды 81-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Акцыя пачнецца а 12-й гадзіне на плошчы Якуба Коласа адкуль удзельнікі шэсця пройдуць па праспекце Ф.Скарыны да вуліцы Янкі Купалы і потым — да плошчы Парыжскай Камуны. З 14.00 да 15.00 каля Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета пройдзе святочны мітынг з агульнай колькасцю ўдзельнікаў да 10 тысяч. Акцыю БНФ падтрымае Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), Аб'яднаная грамадзянская партыя і шэраг дэмакратычных арганізацый.

Нагадаем, што летась у аналагічнай акцыі ўзялі ўдзел больш за 6 тысяч чалавек. Пасля заканчэння мітынгу каля 20 чалавек былі затрыманы супрацоўнікамі праваахоўных органаў.

**Юрый Пацёмкін**

# Пазьняк з Лукашэнкам не сустрэнуцца. Шкада...

**Намеснік кіраўніка кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ ў Менску Ханспетэр Клайнер абверг інфармацыю пра тое, што гэтая група быццам бы падрыхтавала праект перамоваў паміж апазіцыяй і прэзідэнтам па формуле «чатыры плюс адзін».**

Дадзеная інфармацыя з'явілася ў некаторых беларускіх СМІ са спасылкай на крыніцы ў адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. Паведамлялася, у прыватнасці, што, згодна з праектам, падрыхтаваным АБСЕ, за стол перамоваў, з аднаго боку, павінны сесці старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі, старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Віктар Ганчар, два кандыдаты ў прэзідэнты — Міхаіл Чыгір і Зянон Пазьняк, з другога боку — кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка.

Разам з тым Ханспетэр Клайнер падкрэсліў, што намаганні місіі АБСЕ ў Менску сапраўды накіраваныя на дыялог паміж афіцыйнымі ўладамі і апазіцыяй. Гэты дыялог, на думку кіраўніцтва місіі, павінен быць «істотным і канструктыўным». Аднак прадстаўнікі АБСЕ ў Менску ніколі не рыхтавалі прапановаў па канкрэтным фармаце перамоваў і складзе іхніх удзельнікаў.

**Уладзімір Глод**

# У Гайдукевіча расплюшчыліся вочы?

**Вышэйшы Савет і Цэнтральны камітэт беларускай Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП) прынялі рашэнне аб спыненні ўдзелу партыі ў выбарах у мясцовыя Саветы, прызначаных на 4 красавіка.**

Як вядома, ЛДП была адной з нямногіх палітычных партый, якія вырашылі ўзяць удзел у мясцовых выбарах, і ўжо вылучыла на іх 1226 кандыдатаў. У заяве кіраўніцтва партыі, прынятай наконт гэтага 17 сакавіка, гаворыцца, што «праводзімыя выбары не толькі фальшывыя па сваёй сутнасці», але і «сфальсіфікаваныя ўжо ў самым пачатку». «Парушэнняў і грубага беззаконня, шчырых здзекаў над людзьмі, якія паспрабавалі мець зносіны з выбаршчыкамі, над іхнім канстытуцыйным правам немагчыма пералічыць», — адзначаецца ў ёй.

Кіраўніцтва ЛДП лічыць, што «прававы і канстытуцыйны «беспредел» у Рэспубліцы Беларусь дасягнулі свайго апагею», і правядзенне «любых выбараў пры існуючым Цэнтрвыбаркаме і выканаўчай уладзе немагчыма».

**Юрый Пацёмкін**

# Пазьняк зьбірае саюзьнікаў

**Міжнароднай амністыі;**
**Камісіі па правах чалавека ў ААН;**
**Камісіі па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Еўропе Кангрэса ЗША;**
**Міжнароднаму камітэту адвакатаў па правах чалавека**

Гэты мой зварот ёсьць найперш інфармацыя аб жорсткасьцях прамаскоўскага акупацыйнага рэжыму ў Беларусі, спраўцам і выразьнікам якога зьяўляецца прэзыдэнт А.Лукашэнка.

Ужо чатыры гады рэжым практыкуе арышты і катаваньні палітычных апанэнтаў, зьверскае зьбіцьцё людзей і непаўналетніх вучняў беларускіх школаў спэцыяльна падрыхтаванымі для гэтага міліцэйскімі аддзеламі. Зьверствы над людзьмі і дзецьмі чыняць па асабістых распараджэньнях Лукашэнкі.

Началося гэта 12-га красавіка 1995 года. Тады па загаду Лукашэнкі ў залю Беларускага парляманту ўвялі спэцыяльныя карныя войскі ў колькасьці аднаго батальёна (600 салдат і афіцэраў), і зьбілі дэпутатаў Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, якія шляхам галадоўкі пратэсту ў парляманце дамагліся правалу рашэньня аб незаконным рэферэндуме, што імкнуўся навязаць нацыі Лукашэнка. Намі (дэпутатамі парляманту, што падвергліся нападу) была распачата крымінальная справа. Злачынства юрыдычна зафіксавалі, але сьледства спыніла дыктатарская машына рэжыму.

З гэтага часу пачаў раскручвацца махавік акупацыйнага беззаконьня і адкрытага бандытызму новай улады. За апошнія гады было арыштавана, зьбіта і скатавана больш як дзьве тысячы чалавек зь Беларускага Народнага Фронту, а яго старшыні давялося пакінуць Беларусь, каб пазьбегнуць зьнішчэньня.

Арышты сябраў Цэнтральнай Выбарчай Камісіі напрыканцы лютага гэтага году, перасьлед афіцыйных удзельнікаў выбарчай кампаніі на Беларусі, арышт і зьверскае катаваньне старшыні Цэнтральнай Выбарчай Камісіі В.Ганчара і нематываваная жорсткасьць абыходжаньня зь ім як з чалавекам і афіцыйнай асобай сьведчаць пра тое, што на Беларусі павялічваюцца масавыя рэпрэсіі. Улада, выхаваная ў савецкім КГБ, і дыктатар з паранаідальнымі адхіленьнямі псыхікі, спатыкаючыся з палітычнай альтэрнатывай, ня могуць і ня ўмеюць дзейнічаць інакш, як шляхам рэпрэсіяў і гвалту.

Гэта сур'ёзна і гэта небясьпечна. Беларускаму Народнаму Фронту, які нясе на сваіх плячах асноўны цяжар змаганьня з рэжымам, і разам з усімі людзьмі, што стаяць на пазыцыях права, выступіў актыўнай сілай у выбарчай кампаніі, неабходная салідарнасьць і дапамога заходніх парляментаў, міжнародных арганізацыяў і людзей добрай волі.

Нам неабходна:

**- прысутнасьць заходніх назіральнікаў на ўсіх этапах цяперашняй выбарчай кампаніі ў Беларусі, пачынаючы з сёньняшняга дня;**

**- прысутнасьць паўнамоцнай камісіі Міжнароднай Амністыі для знаёмства і назіраньня за парадкам утрыманьня арыштаваных палітвязьняў;**

**- прысутнасьць прадстаўнікоў Камісіі па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў для назіраньня за правапарушэньнямі рэжыму;**

**- Міжнародная адвакацкая дапамога.**

**Мне як прафэсійнаму палітыку і палітычнаму ўцекачу, якога перасьледуе рэжым Лукашэнкі, як старшыні Беларускага Народнага Фронту і як асобе, якая спаборнічае на кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі, неабходныя міжнародныя гарантыі бясьпекі вяртаньня на Беларусь для ўдзелу ў выбарах.**

Я зьвяртаюся да арганізацыяў, якім адрасаваны гэты ліст, з просьбай падтрымаць канстытуцыйныя выбары ў Беларусі і распачаць справу дапамогі ініцыятарам аднаўленьня права, законнасьці, Канстытуцыі і дэмакратыі ў Беларусі.

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**
**12 сакавіка 1999 года, г.Варшава**

# Самы страшны вораг - дэмакратычныя выбары

**Беларускія ўлады спрабуюць актыўна перашкаджаць кампаніі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія прызначаны Вярхоўным Саветам на 16 траўня 1999 года. У распараджэнне некаторых беларускіх СМІ з заслугоўваючых павагі крыніцаў паступіў дакумент, распрацаваны ва ўладных структурах і накіраваны на зрыў прэзідэнцкай кампаніі.**

Дакумент утрымлівае наступныя пункты:

— стварэнне рэспубліканскага штаба (закрытага характару) пры Міністэрстве юстыцыі для юрыдычнай ацэнкі дзеянняў групы лідараў радыкальнай апазцыі па падрыхтоўцы правядзення альтэрнатыўных выбараў прэзідэнта рэспублікі і выпрацоўкі рэкамендацый для прыняцця палітычных і заканадаўчых рашэнняў кіраўніцтвам краіны;

— Міністэрству юстыцыі ва ўзаемадзеянні з праваахоўнымі органамі распрацаваць праект дэкрэта прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб супрацьдзеянні палітычнаму экстрэмізму»;

— з улікам пазіцыі асобных дзяржаваў і іхніх дыпламатычных прадстаўніцтваў (ЗША, краіны ЕС) у дачыненні легітымнасці Вярхоўнага Савета 13-га склікання і прэзідэнцкіх выбараў, абвешчаных апазіцыяй, Міністэрству замежных справаў падрыхтаваць адпаведную заяву аб недапушчальнасці замежнага ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы рэспублікі;

— у мэтах узмацнення кантролю за кантактамі і перамяшчэннем замежных дыпламатаў па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь паскорыць разгляд і прыняцце ўказа прэзідэнта «Аб парадку зносінаў дыппрадстаўніцтваў з Міністэрствам замежных справаў і мясцовымі органамі ўлады»;

— Камітэту дзяржбяспекі рэспублікі ва ўзаемадзеянні з пракуратурай ажыццявіць захады папераджальна-прафілактычнага характару ў дачыненні шэрагу радыкальна настроеных лідараў і актывістаў кампаніі па адхіленні ад улады прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, перш за ўсё, сяброў гэтак званага Цэнтрвыбаркама на чале з В.Ганчаром і яго прадстаўнікоў у рэгіёнах;

— выяўляць крыніцы і каналы фінансавання ды іншай матэрыяльнай падтрымкі ўказаных нелегітымных структураў і спыняць іх праз магчымасці мытных, фінансавых і падатковых органаў;

— рэкамендаваць Мінпраму і органам улады на месцах прыняць дадатковыя захады па ўзмацненні прапускнога рэжыму і ўпарадкаванні ўнутранага распарадку на важных народнагаспадарчых аб'ектах, недапушчэнні арэнды і прадастаўлення службовых памяшканняў для правядзення мерапрыемстваў, звязаных з дзейнасцю радыкальнай апазіцыі;

— рэкамендаваць Міністэрству сувязі ўзмацніць кантроль за выдаткаваннем дадатковых і выкарыстаннем наяўных абанентных нумароў штаб-кватэрам радыкальных палітычных структураў; — падчас рэалізацыі дэкрэта N 2 прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26.01.99 г. органам юстыцыі не дапусціць перарэгістрацыі радыкальна і экстрэмісцкі арыентаваных грамадскіх фармаванняў. Камітэту дзяржбяспекі выкарыстоўваць дадзеную сітуацыю з мэтай разлажэння і кампраметацыі ўказаных структураў;

— па выніках пільнага кантролю за дзейнасцю групы лідараў радыкальнай апазіцыі і развіццём сітуацыі ў экстрэмісцкіх групоўках у рабочым і моладзевым асяроддзі штотыднёва інфармаваць Савет бяспекі ў мэтах выкарыстання магчымасцяў органаў улады і ўпраўлення для блакавання антыканстытуцыйных спробаў правядзення альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў.

**Генадзь Барбарыч**

# Зноў аб правах чалавека

**Напачатку сакавіка сябры свіслацкай філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады арганізавалі і правялі семінар, прысвечаны правам чалавека. Лектарамі выступілі праваабаронцы таварыства абароны правоў падаткаплацельшчыкаў і спажыўцоў «Аслона», дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання юрыст Мікалай Аксаміт з Ваўкавыска, а таксама госці - прадстаўнікі гарадзенскага рэгіянальнага праваабарончага цэнтра Фелікс Гавін і Наталля Маліноўская.**

Падчас зацікаўленага абмену думкамі, былі прыведзены прыкрыя факты парушэння правоў прыватнай асобы з боку дзяржавы і яе чынавенства на месцах. Кожны канкрэтны выпадак разглядаўся праз прызму патрабаванняў законаў нашай краіны і міжнародных нормаў.

На жаль, людзі пакуль што вельмі мала ведаюць аб сваім праве абараняць уласныя гонар і годнасць самымі рознымі сродкамі, уключаючы суд і абапіраючыся на існуючае заканадаўства Беларусі.

Акрамя сяброў БСДГ удзел у семінары прымалі прадпрымальнікі, афіцэры запасу былога мясцовага гарнізона, жыхары Свіслачы.

**Уладзімір Кавалёў**

# Яшчэ раз пра «вогненную ваду»

**1998 год лікёра-гарэлачныя прадпрыемствы Гарадзеншчыны адзначылі вытворчасцю 1 323 000 дал моцнай прадукцыі, што склала 108,1% да ўзроўня 1997 года. Для даведкі: у 1997-м годзе, у параўнанні з 1996 годам, назіраўся рост вытворчасці на 36,8% (на Гарадзеншчыне).**




Такім чынам, за два апошнія гады колькасць пастаўляемага на гарадзенскія паліцы алкаголю толькі мясцовага разліву (без уліку віцебскай, менскай, калінкавіцкай, брэсцкай ды іншай «вогненнай вады») ўзрасла ў паўтара разы. Але крызісу перавытворчасці ў Прынямонні чамусьці не назіраецца - піць ад такога жыцця, відаць, сталі больш. Гэтаму садзейнічае не толькі адносна невысокі - да апошняга часу - рознічны кошт айчыннага «зялёнага змія», што стымулюе яго бязмернае спажыванне. (Не кажучы ўжо пра «сівуху» - «Адпачынак», «Спадчыну», 19-працэнтны пладовы напой «Мускатны» ды інш., якія надаюць тварам заўзятых аматараў нездаровае зямлістае адценне). Лепшыя гатункі гарэлкі трапляюць ў суседнія Польшчу і Літву (з 15 лютага абмежаваны ўвоз) шляхам «чаўночнага бізнесу» пенсіянераў, якія ледзьве зводзяць канцы з канцамі і нават не баяцца адносна высокіх штрафаў. (Калі, прыкладам, іх затрымаюць на вуліцы з палічным у Літве, штраф - каля 20 USD).

Тузін гарадзенскіх піва-віна-лікёра-гарэлачных заводаў, прытрымліваючыся законаў жанру, хутка наладзіў выпуск (спярша вельмі якасных) гатункаў гарэлкі: «Полька», «Панскі дом» ды інш., аператыўна пракручваючы апошнія праз абойму зноў заснаваных расійска-украінскіх (чамусьці не беларускіх?) дэгустацыйных конкурсаў і кірмашоў. Але са з'яўленнем на этыкетках золата-срэбных медалёў якасць фірменных напояў ад асобных вытворцаў проста на вачах пачынае зніжацца. Перш за ўсё, гэта датычыцца Гарадзенскага лікёра-гарэлачнага завода. Відаць, такім чынам праяўляецца цэлы букет фінансава-эканамічных прычын. Але не толькі. Паводле словаў аднаго з вядучых гарадзенскіх спецыялістаў, на шэрагу прадпрыемстваў праяўляюцца і суб'ектыўныя фактары, якія адмоўна ўплываюць на рэгламент такога тонкага працэсу, як лікёра-гарэлачная вытворчасць.

У меншай ступені пералічаныя агрэхі ўласцівыя дзяржаўнаму прадпрыемству «Слонімскі вінзавод», лепшыя гатункі гарэлкі якога: «Паўночныя Афіны», «Слонімская арыгінальная», «Крынічная», «Сікорскі» адзначаны срэбнымі медалямі ў Санкт-Пецярбургу, «бронзай» - у Сочы, «золатам» - на нядаўнім конкурсе ялцінскага Міжнароднага конкурса «Моцныя напоі 1999 года». Дарэчы, у распрацоўцы рэцэптуры «Сікорскага», што вылучаецца прыемным гаркаватым смакам старажытнай гарэлкі (у склад гарэлкі «Сікорскі» ўваходзіць мёд ды іншыя інгрыдыенты), непасрэдны ўдзел прымаў сам Жан Феліксавіч Сікорскі, дырэктар слонімскага вінзавода, які вось ужо на працягу 15 гадоў узначальвае калектыў. Гарэлка «Сікорскі» дужа папулярная ў гарадзенскага насельніцтва, што дазваляе прадпрыемству ажыццяўляць запланаванае. Не застойваецца на паліцах і 40-градусны напой «Фрэгат» (масава вывозіцца «чаўнакамі» ў Польшчу), пры вытворчасці якога выкарыстоўваецца французскія каньячныя спірты. Акрамя «вогненнай вады» слонімчане выпускаюць 12 гатункаў пладова-ягадных вінаў. Уся прадукцыя вінзавода атэставана на якасць. Прадпрыемства, на якім на цяперашні момант працуе 120 чалавек, няблага закончыла 1998 год: рэнтабельнасць 36 працэнтаў, сярэдні заробак персанала - каля 7 мільёнаў рублёў.

**Сяргей Кануннікаў**

# Мытны саюз, як картачны домік з пяці карт

**На пасяджэнні Міждзяржаўнага савета Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі, якое адбылося 26 лютага ў Маскве, было прынята рашэнне прыняць паўнапраўным сябрам «Саюза чатырох» Таджыкістан. Такім чынам, Таджыкістан стаў пятай дзяржавай, што падпісала Дагавор аб Мытным саюзе і адзінай эканамічнай прасторы.**

На нашу думку, далучэнне Таджыкістана да вышэйзгаданага Дагавора нічога добрага Беларусі не прынясе. Больш таго, наша рэспубліка стане (калі ўжо не стала) прахадным дваром на шляху перамяшчэння наркотыкаў з Сярэдняй Азіі ў Заходнюю Еўропу.

Калі ж разглядзець гэты чыста эканамічны аспект супрацоўніцтва паміж Таджыкістанам і Беларуссю, то з-за значнасці адлегласці гэтае супрацоўніцтва наўрад ці будзе «рэнтабельным». Куды больш эфектыўным было б падпісаць падобнае пагадненне з Літвой, Латвіяй ці Польшчай, а тым больш з Украінай... Але кіраўніцтва ўзгаданых вышэй дзяржаваў не хоча жыць у мытным саюзе, нібы ў картачным доміку, кіраўніцтва не хоча неакрэсленасці для свайго народа.

Чарговы крызіс Мытнага саюза ўзнік яшчэ ў студзені, калі Казахстан абмежаваў увоз у рэспубліку шэраг беларускіх, кыргызскіх і расійскіх тавараў. Прыкладам, забаронены ўвоз дваццаць адной пазіцыі прадуктовых тавараў расійска-беларускай вытворчасці. Казахстан таксама зрабіў больш жорсткім кантроль у адпаведнасці з міжнароднымі правіламі (але не нормамі Дагавора аб мытным саюзе) па «транзітных» перавозках алкагольных напояў, тытуню і тытунёвых вырабаў.

У студзені, нагадаем, быў яшчэ адзін крызіс Мытнага саюза. Болей як тыдзень беларускія аўтаперавозчыкі стаялі на мяжы з Расійскай Федэрацыяй, каб пераехаць (прывезці пэўны тавар) усходняму суседу. Беларускія аўтаперавозчыкі апынуліся прыроўненымі ў сваіх правах да партугальскіх, нямецкіх, гішпанскіх, італьянскіх ды іншых перавозчыкаў. І гэта нягледзячы на тое, што Беларусь - сябра Мытнага саюза. Больш таго, сябра саюза Беларусі і Расіі, дзе няма межаў.., дзе і парадку ніякага няма.

На наш погляд, у кожнай дзяржавы заўсёды ёсць і будуць свае эканамічныя інтарэсы, што не супадаюць з інтарэсамі суседа. Таму да неэфектыўнасці дэкларатыўных Мытных саюзаў можна ўжо прызвычаіцца. Няхай гэта будзе саюз чатырох альбо пяці дзяржаваў.

І пакуль Таджыкістан для беларусаў бліжняе замежжа, а Польшча - далёкае, і Беларусь для ўсяго свету пакуль як нейкі мутант у неразумным геаграфа-эканамічным мысленні.

# Чэк - сродак плацяжу і свабоднага перамяшчэння валюты

**Сёння вялікая колькасць грамадзянаў Рэспублікі Беларусь перасякае мяжу дзяржавы з мэтамі камерцыі, турызму, аздараўлення і г.д. Пры гэтым, людзі перавозяць з сабой пэўныя сумы наяўнай валюты. На наш погляд, лепей і працей браць з сабой у замежную паездку не наяўную валюту, а пластыкавыя карткі, дарожныя альбо камерцыйныя чэкі.**

І калі з выкарыстаннем пластыкавай карткі могуць узнікнуць некаторыя праблемы (атрыманне карткі - болей як 130 даляраў, знаходжанне пэўнай сумы (каля 500 даляраў) на картцы і г.д.) ў не вельмі забяспечаных грамадзянаў, то дарожныя ці камерцыйныя чэкі даступныя ўсім катэгорыям насельніцтва, што ад'язджаюць за мяжу.

Увогуле, дарожны чэк уяўляе сабой плацежны дакумент у наминале пэўнай замежнай валюты: швейцарскі франк, даляр ЗША, нямецкая марка і г.д. Яго заўсёды можна абмяняць на наяўную валюту ў большасці замежных банкаў, але лепш у банку, што ўпаўнаважаны для работ з акрэсленым відам чэкаў. Тады з вас возьмуць за выдачу наяўных грошай зусім невялікі працэнт. (Інфармацыю пра выдачу наяўных грошай у іншых краінах вам прадаставіць той банк, у якім вы набылі чэк). Аднак мяняць чэкі на наяўныя зусім неабавязкова - у шматлікіх магазінах, гатэлях і рэстаранах вы можаце непасрэдна імі расплочвацца. Больш таго, калі вы расплочваліся за нейкі тавар камерцыйнымі чэкамі, то пры перавозе гэтага тавару ў сваю краіну вам будзе вернута сума падатку на дабаўленую вартасць, што была ўзята з тавару (маёмасці). Адзіная ўмова - пры набыцці тавару аформіць форму Tax-free і засведчыць яе на мытні, прад'явіўшы тавар.

Перавага чэкаў перад наяўнай валютай таксама ў тым, што згубленым ці скрадзеным чэкам ніхто скарыстацца не зможа, бо пры выдачы наяўных грошай з чэку і аплаце ім за тавары звяраецца подпіс уладальніка. Адзінае, што належыць зрабіць у выпадку знікнення чэку, - як мага хутчэй паведаміць пра гэта адпаведным службовым органам і па тэлефонах сусветнай службы кампенсавання. Нумары тэлефонаў можна даведацца ў любым банку краіны, дзе вы знаходзіцеся. Чэкі з нумарамі патрапяць у стопліст, і вам будзе выплачана кампенсацыя.

Найбольш распаўсюджанымі на тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца дарожныя чэкі Thomas Cook, American Express і камерцыйныя чэкі Global Refund. Іх можна набыць у большасці камерцыйных банкаў Беларусі, а таксама там жа прадаць іх. Інфармацыя па Гарадзенскіх і Менскіх банкаўскіх установах - у **табліцы**.

Цікава тое, што пры набыцці чэкаў, як і пры набыцці валюты, вы атрымліваеце дазвол на вываз валюты. Гэта значыць, перасякаючы дзяржаўную мяжу, вы маеце з сабой канверсуемыя сродкі на законных падставах.

Свабодна можна набыць чэкі на суму да 500 мінімальных заробных плат (250 мільёнаў беларускіх рублёў) па курсу Нацыянальнага банка. А здзелка на суму больш як 500 мінімальных заробкаў адбываецца пры наяўнасці даведкі аб прадастаўленні дэкларацыі ў падатковую інспекцыю. Аднак пазбегнуць неабходнасці прад'яўлення дэкларацыі можна некалькімі спосабамі. Прыкладам, набываць некалькі чэкаў у розных аддзяленнях аднаго і таго ж банка альбо ў розных камерцыйных банках Беларусі.

**Сяргей Міронаў**

| Банкаўская ўстанова і горад | Від чэку | Продаж кліенту,% | Набыццё ў кліента,% | Набыццё раней прададз.чэкаў |
|---|---|---|---|---|
| Бел. біржавы банк | Thomas Cook | 1 | 2 | 0,5 % |
| Белбізнесбанк | American Express | 1 | 1 | 1 % |
| Белпрамбудбанк | Thomas Cook | 0,9 | 1 | 0 % |
| (Менск) | American Express | 0,9 | 1 | 0 % |
| Белпрамбудбанк (Гр.) | American Express | 1 | 1 | 0 % |
| Інфабанк | American Express | 1,2 | - | 1 % |
| | Bank «PKO» | 0,8 | - | - |
| Менсккомплексбанк | American Express | 1 | 1 | 1 % |
| Прыёрбанк | Thomas Cook | 1,5 | 2 | 0,5 % |
| АКБ «Залаты талер» | American Express | 1,1 | 2 | 2 % |
| Новакамбанк | «DKB» | 0,4 | - | 1 % |
| «Беларусбанк» (Мн.) | American Express | 1 | 2,5 | 0 % |
| «Беларусбанк» (Гр.) | American Express | 1 | 2,5 | 0 % |

# Дзе б ні працаваць - толькі б не працаваць!

**Савецкая прапаганда ганарылася тым, што ў СССР няма беспрацоўных. Насамрэч, фактычнае беспрацоўе было не менш як 50 працэнтаў - вельмі шмат было прастояў і шмат людзей сімулявалі працу, нічога не робячы. Існавала прымаўка: «Урад робіць выгляд, што плоціць, а інжынер робіць выгляд, што працуе».**

Сёння рэжым сцвярджае, што на Беларусі толькі каля аднаго працэнта беспрацоўных. Давайце разгледзім сутнасць праблемы.

Праца з'яўляецца таварам, і яе кошт вызначаецца ў рынкавых дачыненнях праз механізм попыту і прапановы. Кошт працы вызначаецца і іншымі фактарамі, але галоўнае - попыт і прапанова. Кошт працы - заробак - не можа быць ніжэй за той узровень, які забяспечвае простае аднаўленне працоўнай сілы. Гэты ўзровень ёсць сабекошт працоўнай сілы, а любы тавар не можа на працягу доўгага часу прадавацца ніжэй сабекошту. Можна дапусціць, што сабекошт працоўнай сілы ў нас прыкладна $1 за гадзіну. Гэта вынікае, напрыклад, з памераў спажывецкага кошыку на Беларусі, а таксама з сярэдняга ўзроўня заробку ў Літве - $250. (Літва 10 гадоў таму мела прыкладна такі самы ўзровень прамысловага развіцця, як і Беларусь. Дзесяць гадоў - даволі малы прамежак часу для прынцыповай змены кваліфікацыі працоўных.). У месяцы звычайна 168 працоўных гадзін, значыць, сярэдні ўзровень заробку мусіць быць $168. На самой жа справе сярэдні заробак складае $24. Парадокс? Не! Проста людзі працуюць толькі тры дні ў месяц, а астатні час, праведзены на працы, ёсць марнатраўства. Паўтару, што праца тут разглядаецца як тавар, які рэалізаваны, значыць, прададзены і аплочаны. На кошт працы таксама ўплывае і якасць працы.

Рэжым вярнуў на Беларусь каманднa-адміністратыўную сістэму, і рынкавыя дачыненні тут адыгрываюць другасную ролю. Грувасткая бюракратычная сістэма вельмі павольна рухаецца, шмат часу забіраюць бюракратычныя працэдуры і абсурдная татальная сістэма кантролю, няма хуткага абароту капіталу, вялікія прастоі і перакуры, вымушаныя адпачынкі, «раскачка» і «штурмаўшчына» - праца як тавар не рэалізуецца. Шматлікія абмежаванні эканамічнай дзейнасці, страх быць абвінавачанымі ў карупцыі блакуюць ініцыятыву людзей. Калі параўнаць $24 і $168, то атрымліваецца, што людзі працуюць толькі на 15 працэнтаў. Восемдзесят пяць працэнтаў - гэта і ёсць рэальны ўзровень беспрацоўя на Беларусі, а не адзін працэнт, як кажа прапаганда пад выглядам статыстыкі. Дарэчы, на сам збор такіх бяссэнсоўных статыстычных дадзеных губляецца шмат часу і грошай.

Магчыма, тут я не ўлічыў усе фактары, але сутнасць зразумелая: не можа быць так, каб тавар - працоўная сіла - прадавалася ніжэй яе сабекошту, а абсурдна нізкія заробкі на Беларусі можна патлумачыць тым, што людзі, знаходзячыся на працоўным месцы, не працуюць; і тым, што праца мае вельмі нізкую якасць. Нізкая якасць працы прыводзіць да нізкай якасці вырабаў і немагчымасці іх рэалізацыі. Пры гэтым марнуецца не толькі праца, але і прыродныя рэсурсы. Такое становішча ёсць вынік панавання антыбеларускага рэжыму.

**Сяргей Дамброўскі**

# Чарговы псеўдакантроль

**На мінулым тыдні прэзідэнт даў чарговыя (болей, чым у пяцідзесяты раз) указанні ўраду рэспублікі пракантраляваць цэнаўтварэнне ў Беларусі. Бо кантроль з боку дзяржавы за цэнамі - адзін з прынцыпаў эканомікі рынкавага сацыялізму, які будуецца ў рэспубліцы.**

У адпаведнасці з указаннямі прэзідэнта, Савет Міністраў на працягу чатырох наступных дзён падрыхтаваў і прыняў Пастанову «Аб некаторых мерах па ўзмацненню кантроля за выкананнем дысцыпліны цэн». Указаны дакумент устанаўлівае, што суб'екты гаспадарання пры вызначэнні ўзроўню адпускных коштаў і тарыфаў на рэалізуемую прадукцыю (тавары, работы, паслугі) абавязаны абгрунтоўваць іх адпаведнымі эканамічнымі разлікамі, гэта значыць, скласці калькуляцыю з расшыфроўкай выдаткаў. Адсутнасць жа гэтых разлікаў разглядаецца зараз як парушэнне дысцыпліны цэн і цягне за сабой накладванне штрафа кантралюючымі органамі ў памеры да дзесяці працэнтаў ад вартасці рэалізаваных тавараў, работ ці паслуг.

Дзяржава, у асобе выканаўчай улады, у чарговы раз «узмацніла» кантроль за цэнаўтварэннем. Нагадваем, што ў снежні 1998 года такі кантроль ужо ўзмацняўся, а кошты за мінулыя пяцьдзесят чатыры дні ўзраслі ў дачыненні да папярэдняга: на хлеба-булачныя вырабы на 34,1 працэнта, на малочныя прадукты прыблізна на 30 працэнтаў, на чай і каву - на 37,6 працэнта, на садавіну і гародніну прыблізна на 40 працэнтаў. А таксама на чыгуначныя білеты - на 78,7 працэнта, на бензін - у сярэднім на 63 працэнты і так далей.

Такім чынам, можна меркаваць, што Пастанова Савета Міністраў «Аб некаторых мерах па ўзмацненню кантроля за выкананнем дысцыпліны цэн», будучыя ўказанні кіраўніка дзяржавы, што датычаць таго ж кантролю, будуць выглядаць для грамадзян рэспублікі чарговым псеўдакантролем за цэнаўтварэннем.

На наш погляд, неабходна не кантраляваць узровень падвышэння цэнаў, а змагацца з фактарамі, якія забяспечваюць гэты працэс, шляхам правядзення зусім новай эканамічнай палітыкі. Яна павінна быць скіравана не на дасягненне акрэсленых палітычных мэтаў кіраўніка дзяржавы і яго атачэння, а садзейнічаць паляпшэнню дабрабыту кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

**Кацярына Зволін**

 



ПАРАЛЕЛІ

# Беларусь і NATO

**12 сакавіка Польшча, Чэхія і Венгрыя афіцыйна былі прынятыя ў ваенны блок NATO. Гэта выклікала неверагодна злобную рэакцыю вайсковых колаў Расіі і прэзідэнта Беларусі. Каб замаскіраваць свае экспансіянісцкія інтарэсы ў Цэнтральнай Эўропе, яны прыдумалі страшылку пра агрэсіўнасць NATO. Нібыта NATOўцы пагражаюць ператварыць Беларусь у плацдарм для нападу на Расію. Насамрэч, што да NATO і Расіі, справы выглядаюць з дакладнасцю наадварот.**

### Гістарычная неабходнасць

Паўночна-еўрапейская абарончая арганізацыя (NATO) была створана чацвёртага красавіка 1949 года. У яе ўвайшлі 10 еўрапейскіх краінаў, ЗША і Канада. Саюз павінен быў забяспечыць тры мэты: спыніць экспансію Сталіна на Захад, папярэдзіць адраджэнне фашызму і рэваншызму ў Германіі, супрацьстаяць спробам захопу ўлады камуністамі ва ўласных краінах.

У той перыяд часу гэтыя мэты былі надзвычай актуальнымі. Сталін гвалтам умацоўваў свой кантроль над эканомікай і палітыкай у акупаваных савецкай арміяй дзяржавах. Ён падбухторваў паўстанне камуністаў у Грэцыі і грамадзянскую вайну там жа. Падтрымаў дзяржаўны замах у Чэхаславакіі. НКВД-КГБ адшукваў «ворагаў народа» па ўсёй акупаванай Еўропе, ад Балтыкі да Адрыятыкі. У Варшаве судзілі групу Гамулкі, у Празе - Сланскага, у Будапешце - Райка, у Сафіі - Костава. Ішло змаганне з Ціта ў Югаславіі. З Польшчы збег, ратуючыся ад НКВД, кіраўнік краіны Мікалайчык, з Румыніі - кароль Міхай. Кульмінацыяй камуністычнай агрэсіі была блакада Заходняга Берліна. З 26 траўня 1948 года па 12 траўня 1949 году двухмільённы горад забяспечваўся заходнімі краінамі паветраным мастом.

Сталін сустрэў стварэнне NATO нервова, але не спалохаўся і будаваць свой ваенны блок не стаў. Гэта зрабілі пасля яго Хрушчоў і Булганін, стварыўшы Варшаўскі дагавор у 1955 годзе. Стварэнне вадароднай бомбы дазволіла Хрушчову паводзіць сябе ў міжнароднай палітыцы з пазіцыі сілы, што справакавала ў 1961 годзе Карыбскі крызіс і паставіла свет на мяжу ядзернай вайны.

Савецкія танкі наводзілі парадак у 1953 годзе ў Берліне, увосень 1956 года - у Будапешце і Варшаве, увосень 1968 года - у Празе, Браціславе ды іншых чэхаславацкіх гарадах. Савецкая прысутнасць у такіх краінах, як В'етнам, Ірак, Ангола, Нікарагуа і г.д., дазваляла мясцовым камуністам падавіць сваіх апанентаў, знішчыць мільёны людзей, як у Кампучыі, прэтэндаваць на чужыя тэрыторыі, як у Лівіі. Лепшыя кадры міжнародных тэрарыстаў праходзілі навучанне ў СССР, знаходзілі тут прытулак ад пераследу заходніх спецслужбаў. У 1979 годзе пачалася акупацыя Афганістана.

NATO за ўвесь час свайго існавання не акупаваў ніводнай краіны, не разбурыў ніводнага горада. Нават цяпер, пасля распаду Варшаўскага дагавора, яны не кінуліся захопліваць безабаронныя былыя сацыялістычныя краіны і рэспублікі СССР. NATO аддае перавагу міру, а не вайне. Менавіта па прычыне ўмяшальніцтва NATO былі ўрэгуляваны сербска-харвацка-баснійскі ўзброены канфлікт у былой Югаславіі. Менавіта краіны NATO, не пазбаўляючы Сербію суверэнітэту, спрабуюць спыніць баявыя дзеянні ў Косаве.

NATO стаў на шляху камуністаў да дыктатуры ў Францыі і Італіі. Блок не дазволіў адрадзіцца неанацызму ў Нямеччыне. NATO ўз'яднаў народы Еўропы, зблізіў традыцыйных ворагаў немцаў, французаў, англічан, гішпанцаў на грунце прыняцця агульначалавечых каштоўнасцяў. Умела арганізаваная абарона прымусіла Савецкі Саюз нарошчваць узбраенне насуперак збядненню насельніцтва, што падарвала яго эканоміку і палітычнае ўладкаванне.

### Патрабаванне часу

Уражвае адсутнасць у беларускай знешняй палітыцы аб'ектыўных арыенціраў і поўнае ігнараванне нацыянальных інтарэсаў, якія вынікаюць з геапалітычнага становішча Беларусі. Беларусь - краіна еўрапейская і пераважна хрысціянская. Насуперак сваёй еўрапейска-хрысціянскай сутнасці сёння Беларусь шукае нейкія восі ў накірунку Ціхага ды Індыйскага акіянаў, спрабуе стварыць антыамерыканскія суполкі з мусульманскіх краін. Цалкам відавочна, што самастойнай беларускай знешняй палітыкі не існуе, што гэта ўсяго толькі адно з аўтаномных падраздзяленняў Міністэрства замежных справаў Расіі, яе выведкі і Генштаба.

У гэтай сувязі трэба разглядаць патрабаванні беларускага прэзідэнта распусціць NATO, паколькі распаўся Варшаўскі дагавор. Варшаўскі блок аказаўся нежыццяздольным, бо ўступіць у яго прымусілі еўрапейскія краіны Савецкі Саюз. Акрамя таго, NATO нарадзіўся на шэсць гадоў раней за Варшаўскі дагавор, тады пра апошні не было і гаворкі. Навошта Захаду распускаць ваенную арганізацыю, якая даказала сваю эфектыўнасць і ў якую імкнуцца дзеля забеспячэння бяспекі ўступіць новыя краіны?

У гэтым жа рэчышчы знаходзіцца прапанова стварэння бяз'ядзернай зоны. Бяз'ядзерная зона ў Еўропе ўжо існуе. У немцаў няма ядзернай зброі, і пакуль існуе NATO - не будзе. ЗША ўбралі ядзерныя боегалоўкі з Еўропы, і каля беларускіх межаў яны не з'явяцца. Беларусі трэба змагацца з ядзернай, тэхнагеннага паходжання, катастрофай у Чарнобылі, адказнасць за якую ляжыць цалкам на Расіі, як афіцыйнай правапераемніцы Савецкага Саюза.

Роспуск NATO разбурыць увесь еўрапейскі баланс бяспекі. Ён актывізуе нямецкіх рэваншыстаў, якія памятаюць пра страчаныя тэрыторыі ў Прусіі, Сілезіі і г.д. Немцы ў стане зрабіць любую зброю ў кароткі тэрмін. Па моцы Германія пераўзыходзіць у Еўропе ўсіх. У інтарэсах Беларусі прасіць NATO ні ў якім разе не распускацца, іначай нас чакае чарговы падзел.

Калі Беларусь прадэманструе добрую волю і розум у абароне сваіх нацыянальных інтарэсаў, Заходняя Еўропа праінвестуе нашу эканамічную рэформу. Ні тое, ні другое не адпавядае інтарэсам расійскіх «ястрабаў». Вось і ўся «праблема» NATO для Беларусі.

**Сяргей Самасей**

# Еўропа асуджае дыктатуру і беззаконне ў Беларусі !

**Еўрапейскі парламент аднагалосна прыняў 11 сакавіка рэзалюцыю аб сітуацыі ў Беларусі. Гэта ўжо трэцяя рэзалюцыя Еўрапарламента пра становішча ў нашай краіне.**

Еўрапейскі парламент, спасылаючыся на свае папярэднія рэзалюцыі па сітуацыі ў Беларусі,

**А.** Беручы пад увагу, што дэмакратычныя структуры Беларусі, створаныя ў 1994 годзе, былі скасаваныя прэзідэнтам Лукашэнкам пасля спрэчнага рэферэндума, легітымнасць якога не прызнана большасцю заходніх краін;

**В.** Беручы пад увагу, што прэзідэнт Лукашэнка пасля змяніў Канстытуцыю, распусціў легітымны парламент і прадоўжыў да 2001 года тэрмін сваіх прэзідэнцкіх паўнамоцтваў, якія, паводле Канстытуцыі 1994 года, заканчваюцца 20 ліпеня 1999 года;

**С.** Беручы пад увагу, што ні апазіцыя, ні заходнія дзяржавы, ні міжнародныя арганізацыі не прызнаюць новую рэдакцыю Канстытуцыі;

**D.** Беручы пад увагу, што лідары беларускай апазіцыі прызначылі дату правядзення прэзідэнцкіх выбараў на 16 траўня 1999 года, у сувязі з чым беларускія ўлады затрымалі і асудзілі 17 сяброў Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і вынеслі папярэджанне беларускім газетам за публікацыю матэрыялаў аб выбарах, прызначаных апазіцыяй;

**Е.** Выказваючы жаль з нагоды пастаяннага пагаршэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі падчас праўлення прэзідэнта Лукашэнкі, што вымушае адмесці Беларусь да ліку краін - грубых парушальнікаў правоў чалавека ў свеце;

**F.** Беручы пад увагу намаганні АБСЕ, скіраваныя на адраджэнне ў гэтай краіне дэмакратычных структур, а таксама нядаўнія прапановы АБСЕ аб пасрэдніцтве пры вырашэнні канфлікту паміж прэзідэнтам і апазіцыяй;

**G.** Адзначаючы, што апазіцыйныя палітыкі пазбаўлены доступу да дзяржаўных друкаваных электронных сродкаў масавай інфармацыі, што перашкаджае адкрытай дыскусіі і робіць немагчымым правядзенне сапраўдных свабодных і чэсных выбараў, а таксама заклік усіх дэмакратычных партый байкатаваць мясцовыя выбары, прызначаныя на красавік 1999 года;

**Н.** Адзначаючы пастаянны перасслед журналістаў з боку ўладаў, а таксама адсутнасць дэмакратычнага закона аб СМІ і абмежаванне свабоды прэсы;

**І.** Улічваючы пастаянныя арышты, затрыманні і штрафы ў адносінах да арганізатараў і ўдзельнікаў мірных дэманстрацый,

**1.** Заклікае прэзідэнта і ўрад Беларусі адрадзіць дэмакратыю і забяспечыць захаванне правоў чалавека ў Беларусі, асабліва свабоду сродкаў масавай інфармацыі;

**2.** Адпаведна патрабуе правядзення свабодных і справядлівых прэзідэнцкіх выбараў да таго часу, як заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта А.Лукашэнкі, і патрабуе выканання ў адносінах да гэтых выбараў стандартаў АБСЕ, а таксама прысутнасці на іх назіральнікаў ЕС і АБСЕ;

**3.** Настойліва заклікае прэзідэнта А.Лукашэнку спыніць крымінальны пераслед і запалохванне апазіцыйных сіл, якія займаюцца падрыхтоўкай законнай кампаніі па выбарах прэзідэнта;

**4.** Заклікае прэзідэнта А.Лукашэнку і ўрад Беларусі неадкладна забяспечыць усім апазіцыйным палітычным дзеячам бесперашкодны доступ да дзяржаўных друкаваных і электронных сродкаў масавай інфармацыі;

**5.** Адзначае, што апазіцыя байкатуе мясцовыя выбары, што робіць іх несапраўднымі;

**6.** Заяўляе пра сваю поўную падтрымку спробаў АБСЕ, накіраваных на арганізацыю дыялогу паміж прэзідэнтам і апазіцыяй з мэтай пазбегнуць больш сур'ёзных канфліктаў;

**7.** Заклікае прэзідэнта А.Лукашэнку і ўрад Беларусі гарантаваць беларускім грамадзянам права на публічнае мірнае выказванне пратэсту, спыніць адвольныя арышты ўдзельнікаў і арганізатараў дэманстрацый.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

# За вашу і нашу свабоду!

**Дажыліся. У Беластоку на вуліцы Ліповай дэманстрацыя з бел-чырвона-белымі сцягамі! Нясуць іх... палякі. Маладыя.**

Дэманстрацыя ў выглядзе шэсця з абгорнутай чырвона-зялёным сцягам труной накіроўвалася да Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку. На труне надпіс: «Свабода і дэмакратыя ў Беларусі». За ёю чалавек сорак моладзі з бел-чырвона-белымі сцягамі і транспарантамі: «Менск - Варшава, супольная справа», «Лукашэнка - дазволь жыць!, «Нармальнае жыццё ў нармальнай дзяржаве», «Адчыніце вочы» і «Жыве незалежная Беларусь!». Вузкая вуліца ў цэнтры Беластока напоўнілася вострымі свістамі і воклічамі: «Жыве Беларусь!», «Свабода палітычным вязням!», «Лукашэнку ў кал-гас».

Перад зачыненымі дзвярыма консульства, пад непрыемным снегам з дажджом, была зачытана «Петыцыя маладых жыхароў Польскай Рэчы Паспалітай да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Спадара Аляксандра Лукашэнкі»: «Мы, маладыя жахары Польшчы цэнім дэмакратыю. Маладыя людзі, незалежна ад нацыянальнасці, адчуваюць тое, чаго не могуць часам зразумець палітыкі. Таму трэба іх паслухаць, а не арыштоўваць, як Аляксея Шыдлоўскага, Андрэя Клімава, Уладзіміра Плешчанку, Яўгена Скочку і многіх іншых палітычных вязняў. Вы не жадаеце слухаць праўду, заплюшчваеце вочы на іншыя погляды, на інакшае ўяўленне дзяржавы. Бар'еры, якія Вы ставіце, не дазваляюць нашым равеснікам з-за ўсходняй мяжы мець надзею на нармальнае жыццё ў нармальнай дзяржаве. Нам, маладым, якія пазналі ўжо добрыя бакі дэмакратыі, як і тым, якім яшчэ не было гэта дадзена, не закрыюць вуснаў глухія і сляпыя на грамадскія патрабаванні палітыкі. Мы будзем надалей дзейнічаць дзеля «Вашай і нашай свабоды». Мы верым, што палітычныя муры калісьці абрынуць і пахаваюць пад сабой стары несправядлівы свет (...). Таму, Спадар Прэзідэнт, дамагаемся ад Вас вызвалення палітычных вязняў, ліквідацыі цэнзуры, патрабуем свабоды слова, маніфестацый і светапогляду, спрыяння развіццю беларускай мовы і культуры. Адным словам, патрабуем нармальнага жыцця для нашых сяброў у Беларусі».



Петыцыя была ўручана генеральнаму консулу Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалаю Крэчку. Прыняў ён яе асабіста ў прыёмнай консульства і ў прысутнасці журналістаў абяцаў перадаць далей дыпламатычнай поштай. Дарэчы будзе тут заўважыць, што Мікалай Крэчка не першы раз у добрым стылі абверг меркаванні беластоцкай прэсы наконт яго асобы (калі яго прызначылі, амаль усе пісалі, што ў Беласток на месца прафесара Міхаіла Слямнёва прыязджае паліцэйскі). На свісты, воклічы і петыцыю дэманстрантаў консул Крэчка адрэагаваў са спакойнай усмешкай: «Жывіце ў свабоднай краіне і можаце рабіць, што хочаце. Нядаўна дэманстравалі рольнікі, цяпер моладзь... Усё нармальна».

Дэманстрацыю сарганізавала Унія маладых. Заснавалі яе студэнты і вучні сярэдніх школ Беластока - прадстаўнікі розных асяроддзяў і моладзевых адгалінаванняў палітычных партый, ад кансерватараў з Выбарчай акцыі «Салідарнасць» да Сацыял-дэмакратыі Рэчы Паспалітай. Дэклaруюць яны, што Унія маладых - апалітычная арганізацыя, а яе сябры пазбягаюць спрэчных пытанняў і дыскусій, якія маглі б іх падзяліць. Усе з пашанай ставяцца да такіх вартасцяў, як дэмакратыя, свабода слова і сумлення, пашана роднай культуры. Унія маладых лічыць, што іх аднагодкі ў Беларусі пазбаўлены гэтых каштоўнасцяў і таму патрабуюць дапамогі.

Пакуль вядзецца рэгістрацыйны працэс, Унія маладых дзейнічае пры Цэнтры грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь. Карыстаецца яго дапамогай: памяшканнем, аргтэхнікай і досведам у грамадскай дзейнасці. Старшынёй Уніі маладых з'яўляецца палітычны ўцякач з Беларусі Ян Абадоўскі, цяпер студэнт Беластоцкага політэхнічнага інстытута.

«Наша дэманстрацыя была актам салідарнасці з Маладым Фронтам, сябраў і прыхільнікаў якога збівалі ў Менску ў дзень Святога Валянціна, калі тыя перад амбасадамі еўрапейскіх дзяржаваў прызнаваліся ў каханні да Еўропы», - сказаў на прэс-канферэнцыі Ян Абадоўскі.

Кіраўніцтва Уніі маладых з Беластока заявіла, што рыхтуе дыскусію на тэму вышэйшага школьніцтва ў Польшчы і Беларусі. Як адну з мэтаў дзейнасці арганізацыя лічыць дапамогу беларускім студэнтам, якіх па палітычных прычынах выкідаюць з універсітэтаў.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота Ганны Кандрацюк**
**Ніва №11**

# Няхай у Беразоўскага рэклама здохне!

**Калі замест рэкламы на тэлеканале ГРТ з'явіліся хлопцы ў саламяных капелюшах, якія заклікалі вырашаць пытанні рэкламы з беларускім тэлебачаннем, многія падзівіліся спрыту, хаця і запозненаму, нашых тэлевізіёншчыкаў. Задума была неблагой - усё нам, падаткаплацельшчыкам, плаціць меней за ўтрыманне БТ.**

Аднак сёння мы назіраем у поўнай меры блакітны экран у той час, калі ГРТ дае рэкламу. Няма нават той куртатай рэкламы віцебскіх дываноў і менскіх тэлевізараў, якую пускаюць па БТ. Проста дзіва, якую бездапаможнасць дэманструе мясцовы тэлевізійны менеджмэнт. І як усё атрымалася «па-тутэйшаму»: самі нічога не набылі, і суседзям нагадзілі.

# Усё тайнае...

**На мінулым тыдні ў Польшчы выйшаў другі нумар спецвыпуску «Манітор», які друкуе спісы дзяржаўных служачых, што прызналіся ў супрацоўніцтве са спецслужбамі камуністычнай дзяржавы.**

Гэтым разам, як і раней, прыводзіцца прозвішчы больш як двух дзесяткаў чалавек. Мінулы раз тут былі суддзі і пракуроры, гэтым разам - пракуроры і адвакаты. Спіс мае тры падзелы. Першы - службоўцы спецслужбаў. Другі - іншыя працоўныя. Трэці - тайныя і наўмысныя агенты.

Міністэрства юстыцыі ўжо запатрабавала звальнення трох суддзяў. На чарзе - пракуроры.

# Вяртаюць скрадзеныя камуністамі грошы

**Літоўскі ўрад абвесціў планы распачаць другі раунд кампенсацыйных выплат тым, хто страціў свае ашчадныя зберажэнні ў банках пасля распаду СССР.**

На гэтыя мэты выдаткоўваецца 199 мільёнаў даляраў у пераліку з літаў. Прыкладна палова гэтай сумы была скарыстана падчас першага этапу пагашэння даўгоў.

На першым этапе кампенсацыі атрымалі тыя, хто дасягнуў 85-гадовага ўзросту, а таксама былыя палітычныя вязні, дэпартаваныя жыхары Літвы, вязні фашысцкіх гета і ахвяры камуністычнага путчу ў Вільнюсе зімой 1991-га. Сёлета грошы выплацяць тым, хто дасягнуў 70-гадовага ўзросту, шматдзетным сем'ям, інвалідам. Па кампенсацыю могуць звярнуцца былыя палітвязні-эмігранты, якія не вярнуліся на Радзіму.

**Б. Каштальян**

 

# Калі-нікалі і пэндзаль страляе, або Як увайсці ў гісторыю

**Прыкладна месяц будзе доўжыцца беспрэцэдэнтная творчая акцыя «Гарадзенскі пейзаж» у дызайн-галерэі «Раскоша». Знакаміты мастак з Абхазіі Руслан Габліяператварае выставачную залу ў мастацкую майстэрню: да канца красавіка ён проста на вачах наведвальнікаў будзе ствараць цудоўныя партрэты ўсіх жадаючых.**

Паміж Беларуссю і Абхазіяй, а значыць, паміж нашымі і іхнімі мастакамі, вельмі шмат агульнага. Як пра Беларусь кажуць: «Гэта недзе ў Расіі?», так і Абхазію лічаць часткай Грузіі. Аднак гэта -асобная краіна, са сваёй нацыянальнай мовай і культурай. Зусім нядаўна скончылася абхазская вайна - вайна за свабоду і незалежнасць, якую маленькі народ выйграў у вялізнай імперыі.

Побач з партрэтамі гарадзенцаў - работамі Руслана, у нас адбылася размова пра змагароў за свабоду, мастацтва падчас вайны і пра гарадзенцаў. І, верце або не, нам ёсць чаму павучыцца ў 500-тысячнага абхазскага народа.

***- Дзякуючы чаму вы перамаглі ў гэтай вайне?***

- Як кошка, загнаная ў кут, становіцца тыграм, так і наш народ, наша краіна, якую дзялілі паміж Расіяй і Грузіяй, змагаліся з апошніх сілаў. Гэта была вайна на вынішчэнне - гэта значыць, альбо ўсе загінуць, альбо перамогуць. Абхазіі, так бы мовіць, яшчэ пашанцавала ў гістарычным плане. Яшчэ з VIII стагоддзя Абхазскае царства існавала як самастойная незалежная краіна. Ці шмат вы налічыце сучасных дзяржаваў, адлік існавання якіх пачаўся больш за тысячу гадоў таму? Амаль усе яны ці то сцертыя з карты, ці то ўвайшлі ў склад іншых краін. Тое ж пагражала і нам. Напачатку XX стагоддзя абхазцаў падзялілі турэцкі султан і расійскі цар. У савецкія часы мы перажылі канфедэрацыю з Грузіяй, гвалтоўны вываз і, наадварот, засяленне людзей. Спачатку ў Абхазіі грузінамі сябе лічылі 17 працэнтаў насельніцтва, праз нейкі час - ужо амаль усе. Стваралася пагроза страты ўсяго - незалежнасці, мовы, культуры. І тады выбухнула вайна. У гэтай вайне сілы Грузіі пераўзыходзілі нашы сілы ў 40 разоў. Але мы перамаглі.

***- Што надавала вам сілаў?***

- За свабоду трэба плаціць. Богу Вайны аддаюць лепшых. Так здарылася і з намі - гінулі самыя мужныя, самыя разумныя. Але змагаліся не мы адны. Нам дапамагалі ўсе людзі, якія палічылі сваім абавязкам стаць на бок слабейшых. У час вайны была прымаўка: «Кожны сумленны чалавек - абхазец». Не ў сэнсе нацыянальнасці, а паводле маральных прынцыпаў. Мы ваявалі за сябе, за сваю будучыню.

***- Дзе месца мастака ў часы барацьбы?***

- Я не лічу сябе храбрым ваякам, але я падчас ваенных дзеянняў быў на перадавой. Праўда, не з пісталетам, а з мастацкімі прыладамі. Я пісаў партрэты тых, хто сядзеў у акопах і ішоў у атаку. Засталося шмат партрэтаў людзей, якія загінулі на вайне. Я, калі можна так сказаць, паляваў за цікавымі тварамі, асабліва за прадстаўнікамі старэйшага пакалення. Яны - носьбіты нашага кодэкса гонару. Шчасце, што ў мяне цяпер мноства іх партрэтаў. Калі чалавек мудры - у твары яго бачыш прасвятленне, нейкі боскі адбітак.

***- Які ён, кодэкс гонару абхаза?***

- Галоўнае - павага і ўшанаванне жанчын, дзяцей, старых, адкрытасць, шчырасць і гасціннасць. Усё гэта процістаіць сучаснай, новай маралі з яе агрэсіяй і раздзяленнем людзей. Мы будзем будаваць сваю краіну, я так спадзяюся, захоўваючы свае традыцыйныя каштоўнасці.

***- Вы першы раз у Беларусі і ўзяліся за нялёгкую працу ствараць галерэю партрэтаў гарадзенцаў. Як Вам падаліся нашы гараджане?***

- Я не хачу лісліваць, хваліць усіх, але праўда тое, што людзі ў вашым горадзе вельмі шчырыя, адкрытыя, спачувальныя. Да таго ж, сам горад вельмі прыгожы. Вы ведаеце, на Каўказе шмат старажытных гарадоў, але тут усё зусім іншае. Мне вельмі падабаецца.

***- Як Вы знаходзіце ўзаемаразуменне з «натурай», каб партрэт выглядаў натуральна, нязмушана?***



Руслан Габлія

- Галоўнае - гарманізаваць кожную частку палатна, каб усё звінела ў адзіным рытме. Ад гэтага выйграе ўся задумка. Жывапіс - гэта гульня, але высокая гульня. Я дыктую законы, якія павінны быць цікавымі гледачу. Тады ён прыме ўдзел у гэтай гульні, дамалёўваючы для сябе тое, чаго, на яго думку, не хапае. Самы вялікі крытык для сябе - сам мастак. Калі мае правілы гульні правільныя - то выйграюць усе. У сапраўднага мастака дасканалы нават першы мазок на палатне, гарманічна ўсё - ад пачатку да канца. Дасканаласць павінна быць закладзена з самага пачатку.

Да размовы далучаецца гаспадыня галерэі **Алена Пілічава**:

- На сённяшні дзень партрэт - гэта, напэўна, самы рэдкі жанр жывапісу. Магчыма, таму, што пісаць партрэты вельмі складана. Трэба мець іншы зрок, каб убачыць Твар... Тым больш хацелася б нейк ускалыхнуць жанр партрэта, мажліва, адрадзіць добрую традыцыю, калі дом упрыгожваўся выявамі блізкіх і любімых людзей. Партрэты, выкананыя добрым мастаком, набываюць каштоўнасць з гадамі. Па іх мы складаем гісторыю сям'і, горада, краіны.

Напрыканцы красавіка ў галерэі «Раскоша» адбудзецца выстава - вынік творчай акцыі «Гарадзенскі партрэт».

**Гутарыла**
**Алена Сіневіч**

## Замест «Батлейкі» - «ART-кафэ»

**У Гарадзенскім абласным тэатры лялек гасцінна адчыніла свае дзверы новая кавярня з назовам «ART-кафэ», гаспадаром якой з'яўляецца МП «Райвер».**

Адметнасць кавярні - багаты выбар закусак і розных прысмакаў (чабурэкі, піражкі, аладкі, разнастайныя салаты, натуральныя сокі) і адсутнасць спіртнога. Нагадаем, што гаспадарам «Батлейкі» тэатр не прадаўжыў тэрмін арэнды якраз за гандаль моцнымі спіртнымі напоямі, бо гэта не дапушчальна ў дзіцячай установе.

Новая кавярня сумесна з акторамі тэатра лялек плануе арганізоўваць адмысловыя святочныя імпрэзы: дні нараджэння для дзяцей і сустрэчы творчай інтэлігенцыі.

**Ігар Гандлеўскі**

## Нарысы для журналістаў

**Выдатны падарунак падрыхтавала для пішучай брацііі Гарадзенская рэгіянальная асацыяцыя маладых навукоўцаў «Віт». Дзейсную дапамогу ў выданні брашуры «Гармонія беларускага слова» аказала абласное грамадскае аб'яднанне «Ратуша».**

Аўтарамі з'яўляюцца супрацоўнікі кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гарадзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы Анатоль Багдзевіч, Валерый Вараповіч, Іна Карпуць, Юры Пацюпа на чале са сваім кіраўніком - доктарам філалагічных навук, прафесарам Паўлам Сцяцко.

Многія журналісты, пісьменнікі, увогуле прыхільнікі беларускай мовы пераканаюцца, наколькі дрэнна яны валодаюць матчыным словам. Гэта не іх віна. Дзесяцігоддзямі ўлады рабілі ўсё, каб сапраўднае, беларускае, было забыта, заменена кепскімі калькамі з рускай мовы. Гэтаму служылі і так званыя рэформы беларускага правапісу.

Выданне мае чатыры раздзелы: «Даўней і сёння», «Законы словатворчасці», «Лексічныя нормы», «Слоўнік». Чытач даведаецца аб праблемах асабовых назоўнікаў у беларускай мове, дзеепрыметніках цяперашняга часу і іх перакладзе на беларускую мову, афармленні іншамоўных дзеясловаў у роднай мове.

**Сцяпан Ярашчук**




### 21 сакавіка

**100 гадоў** таму (1899 г.) нарадзіўся **Мікола Ільінскі**, беларускі пісьменнік, артыст тэатру. Нарадзіўся ў Міры (Карэліцкі р-н). Вучыўся ў Навагардскай гімназіі, пасля ў Маскве. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». У 1937 года быў выключаны з саюзу пісьменнікаў. У час другой сусветнай вайны заставаўся ў Менску. У 1943 годзе быў забіты ў СД.

### 22 сакавіка

**135 гадоў** са дня пагібелі (1864 г.) **Кастуся Каліноўскага**, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання.

**390 гадоў** таму (1609 г.) нарадзіўся **Ян II Казімір Ваза**, вялікі князь ВКЛ, кароль Рэчы Паспалітай.

### 23 сакавіка

**100 гадоў** таму (1899 г.) нарадзілася **Вольга Александроўская** (дзявочае прозвішча Грудзінская, сцэнічны псеўданім - Галіна), акторка, педагог, народная артыстка Беларусі. Нарадзілася ў мястэчку Жалудок (Шчучынскі р-н). Сцэнічную дзейнасць пачала ў 1919 годзе. У 1923-1962 гг. працавала ў Беларускім тэатры імя Янкі Купалы. Выступала ў перыядычным друку з успамінамі пра дзеячоў беларускага тэатру, рэцэнзіямі на спектаклі, публіцыстычнымі артыкуламі. Памерла 4 снежня 1980 года.

**Падрыхтаваў**
**Уладзімір Хільмановіч**

# І таварыства ёсць, аднак мова саступае пазіцыі

**Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Яе дзейнасць за апошнія два гады прааналізаваў старшыня - загадчык кафедры ГрДзУ, прафесар, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксей Пяткевіч.**

У зале сабралася каля двух дзесяткаў прыхільнікаў беларускай мовы. Хаця абвесткі былі надрукаваны ў газетах. Многіх вядомых асобаў запрашалі персанальна. Але на сход не з'явіліся нават універсітэцкія выкладчыкі, чые беларускамоўныя кафедры размясціліся ў тым жа будынку, дзе праходзіў сход. Што тады казаць пра шэраговых настаўнікаў роднай мовы і літаратуры з гарадскіх школаў?

Тое, што беларуская мова ў Гродне моцна здала пазіцыі, яшчэ раз пацвердзіў на фактах Аляксей Пяткевіч. Напачатку 90-х набор у пачатковыя беларускамоўныя класы ў абласным цэнтры дасягаў 60-70 працэнтаў. Сёння засталіся тры беларускамоўныя класы ў некалькіх сярэдніх школах. Разам гэта каля сотні вучняў. Што ні кажы, перамаглі тыя гарластыя так званыя «русскоязычные», якія ў свой час нахрапіста атакавалі органы ўлады, пісалі ва ўсе інстанцыі, падбухторвалі несвядомых бацькоў ставіць свае подпісы пад лістамі на тэлебачанне, ва ўсе дзяржаўныя ўстановы. Мэта была адна - усяляк байкатаваць навучанне дзяцей па-беларуску. Вынік дасягнуты: у Кастрычніцкім раёне горада няма ніводнай беларускамоўнай школы ці дзіцячага садка. Ну а перамога на выбарах цяперашняга прэзідэнта ўвогуле зняла ўсе пытанні. Рэферэндум рукамі саміх жа беларусаў выкінуў родную мову з практычнага ўжытку.

Ёсць тое, што ёсць. І будзе так, пакуль краінай кіруюць антынацыянальныя сілы. Але, здаецца, паспяшалася святкаваць уяўную перамогу «пятая калона». Людзей можна на нейкі час застрашыць, скаваць іх волю, выклікаць нявер і адчай. Але той жа час і лечыць. Адкінулі прэч мову, герб, сцяг, дэмакратычныя заваёвы - і што, сталі багацейшымі? Аб'явілі пабудову невядомага ў эканоміцы рынкавага сацыялізму - і дакаціліся амаль да поўнай галечы ва ўсіх сферах жыцця. Толькі і засталося, як штодзень на словах пераконваць насельніцтва ў яго шчаслівым жыцці. А цэны ў магазінах сцвярджаюць адваротнае...

Так што не мова вінаватая ў няўмельстве «вертыкалі» наладзіць нармальнае жыццё. Развальць беларускую сістэму адукацыі проста. А што ўзамен? Па-ранейшаму ў першых класах вучыць вершыкі пра добрага дзядулю Леніна...

Можна зразумець горыч дакладчыка. Яшчэ два гады таму напачатку навучальнага года каля 60 актывістаў таварыства хадзілі па кватэрах і вялі гутаркі з бацькамі, каб тыя аддавалі сваіх дзяцей у беларускія класы. Пасля гэтым жа бацькам у школе настаўнікі выкручвалі рукі і прымушалі перапісваць заявы на клас з рускай мовай навучання. Так было. Вядомы прозвішчы гэтых, з дазволу сказаць, педагогаў, як вядомы імёны «клапатлівых» бацькоў, што нядаўна атабарыліся на беларускай зямлі, але ўжо з прышчэпкай на імперскасць. Гэтыя людзі ў любой краіне былога СССР шмат гаварылі пра інтэрнацыяналізм, але разумелі яго толькі як сродак дасягнення ўласнага дабрабыту. Беларусь не выключэнне. Тут хамскія адносіны да карэннага насельніцтва сталіся правілам. А хто пакорліва схіляе галаву, на таго абавязкова насунуць хамут і добра засупоняць, каб хаця ж не вырваўся!

Летась па кватэрах ужо не хадзілі. Зразумелі, што трэба мяняць дзяржаўную палітыку ў галіне народнай адукацыі ў цэлым, а не займацца ўгаворамі бацькоў. Апошніх таксама можа зразумець. Іншы, больш дасведчаны, пытаецца: а дзе беларускамоўныя сярэдне-спецыяльныя ўстановы, не кажучы пра вышэйшыя? Вось закончыць сын ці дачка беларускую школу, калі нават такое і ўявіць, то куды пойдзе за ведамі далей? Хіба зноў перавучвацца, але ўжо на рускі капыл? Не, лепш ужо адразу...

Першасныя суполкі ТБМ у горадзе захаваліся на некаторых прадпрыемствах і ва ўстановах - у тым жа дзяржуніверсітэце, інстытуце біяхіміі, рэдакцыі газеты «Гродзенская праўда», абласным тэлерадыёаб'яднанні, некаторых музеях. Але сітуацыя цяжкая. Два гады запар улады наўмысна імкнуліся закрыць разліковы рахунак гарадской арганізацыі ТБМ, налічваючы арэндную плату ў тых памерах, што і багатаму не снілася. А па закону, калі на працягу двух месяцаў не праводзіш ніякіх фінансавых аперацый, рахунак закрываецца. Гэта вядзе да аўтаматычнага знікнення арганізацыі. Інакш, як ідэалагічнай дыверсіяй такі наскок і не назавеш.

Што ж далей? Пра здачу на міласць пераможцаў не можа ісці і гаворкі. Застаецца адно - штодзённая карпатлівая праца. Нягледзячы ні на што. Захаваўся актыў. Трэба мяняць формы і метады работы. Пра гэта найперш і гаварылі ўдзельнікі канферэнцыі. Не прасіць міласціну, а патрабаваць выканання законаў і Канстытуцыі ад уладных структур. Удзел гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы ў Каардынацыйным камітэце «Гарадзенская ініцыятыва» дае спадзяванні на падтрымку ўсімі дэмакратычнымі сіламі горада справядлівых намаганняў ТБМ. Уключаючы арганізацыю пікетаў у абарону роднага слова. Шырэй будзе разгорнута патрыятычна-асветніцкая работа, праводзіцца мацаванне ўласных структур. Нельга абыходзіць бокам працу ў беларускамоўных класах, іх значную падтрымку.

Многія набалелыя пытанні будуць вырашацца на чарговым з'ездзе рэспубліканскай арганізацыі ТБМ, які пройдзе ў сярэдзіне красавіка. Удзел у рабоце прымуць і дэлегаты ад Гродна, вылучаныя на справаздачна-выбарчай канферэнцыі.

**Антон Лабовіч**

АДПАЧЫНАК

# Палачкі Коха зноў наступаюць

**У 1882 годзе нямецкі навуковец Роберт Кох зрабіў у Берлінскай суполцы фізіёлагаў паведамленне пра адкрыццё ім узбуджальніка сухотаў, які пазней быў названы палачкай Коха. Праз 13 гадоў Вільгельм Рэнтген вынайшаў выпраменьванне, што атрымала назву «рэнтгенаўскае». Гэтае адкрыццё дало магчымасць выяўляць у лёгкіх сухотныя зьмяненні. Пазней, у 1921 годзе, французскія навукоўцы стварылі супрацьсухотную вакцыну, якая застаецца дзейснай і зараз.**

Але адзінае, што маглі рэкамендаваць ўрачы ў той час хворым на сухоты - гэта санаторнае аздараўленне ў гарах, дзе хворыя маглі дыхаць свежым паветрам, добра харчавацца і адпачываць. Аднак сухоты знаходзілі новых ахвяраў. І толькі пасля 1944 года, калі спярша быў атрыманы стрэптаміцын - першы процісухотны прэпарат, а затым і іншыя прэпараты ад гэтай хваробы, з'явілася магчымасць значна зменшыць узровень захворваемасці на сухоты, і будучыня ўяўлялася ў вясёлкавым святле.

Аднак у сярэдзіне і напрыканцы 80-х гадоў сухоты вярнуліся туды, дзе былі (як здавалася) амаль пераможаны; а там, дзе яшчэ заставаліся - сухоты перайшлі ў наступ. Хвароба не толькі вярнулася, яна стала больш небяспечнай! За апошнюю чвэрць стагоддзя бактэрыі набылі лекавую ўстойлівасць, і сухоты зноў могуць стаць невылечнымі, як і да з'яўлення антыбіётыкаў. У асноўным з-за таго, што пацыенты, парушаючы прадпісанні ўрача, няправільна, малымі дозамі, нерэгулярна і на працягу кароткіх тэрмінаў праходзяць лячэнне. Калі-нікалі мікабактэрыі бываюць устойлівымі да 6-7 супрацьсухотных прэпаратаў. І зазвычай такімі палачкамі Коха - гэта смяротны зыход.

Сухоты застаюцца адной з самых распаўсюджаных інфекцыяў у свеце і ўяўляюць вялікую небяспеку для здароўя насельніцтва. У 1999 годзе Сусветная арганізацыя аховы здароўя (СААЗ) чацвёрты год запар абвяшчае 24 сакавіка Сусветным днём барацьбы з сухотамі. І для гэтага ёсць важкія падставы.

Каля трэці насельніцтва нашай планеты сёння інфікавана мікабактэрыямі сухотаў, і каля трох мільёнаў чалавек штогод памірае ад гэтай хваробы. Мікабактэрыі сухотаў забіваюць больш людзей, чым які-небудзь іншы ўзбуджальнік інфекцый. У развіваючыхся краінах смяротныя выпадкі, звязаныя з сухотамі, складаюць 25 працэнтаў ад агульнай колькасці лятальных зыходаў, якія можна было б прадухіліць.

Хвароба не шкадуе ні дзяцей, ні старых, але ў асноўным яе ахвярамі з'яўляюцца людзі працаздольнага ўзросту. Па заключэнню СААЗ, сухотам садзейнічаюць галеча і дрэннае харчаванне людзей, што назіраецца ва ўсіх краінах свету. Сухоты не абмінаюць і эканамічна развітыя краіны, дзе за апошнія 10 гадоў колькасць зарэгістраваных хворых павялічылася на 14 працэнтаў.

Апошнім часам значны ўплыў на захворваемасць сухотамі стаў аказваць СНІД, які распаўсюджваецца па розных кантынентах. Статыстыка сведчыць, што сёння на Зямлі налічваецца 5,6 мільёна чалавек, інфікаваных сухотамі і ВІЧ адначасова.

У сувязі з пашырэннем міжнародных сувязяў, турызму, прадпрымальніцкай дзейнасці, для нашай вобласці найбольшае значэнне мае стан справаў з сухотамі ў суседніх дзяржавах. І хаця агульны паказчык захворваемасці на сухоты ва Усходняй Еўропе склаў у 1996 годзе 60 на 100 тысяч чалавек, то ў Румыніі захворваемасць дасягнула 104,8 на 100 тысяч насельніцтва; у Літве - 70,6; Латвіі - 69,4; у Расіі - 75,8; Эстоніі - 50,9; на Украіне - 73,0.

Сёння спыніць сухоты вельмі няпроста. Апрача сацыяльна-эканамічных і экалагічных фактараў на рост захворваемасці сухотамі насельніцтва ўплывае і боязь апраменьвання пры праходжанні флюараграфіі, хаця дозы яго вельмі нязначныя і ў некалькі разоў меншыя, чым, прыкладам, ад доўгага прагляду тэлевізійных праграмаў альбо сонечнага загару. Разам з тым, у Рэспубліцы Беларусь праведзена значная работа па стварэнню сучаснага флюараабсталявання, і ў бягучым годзе мяркуецца яго практычнае выкарыстанне. Галоўная яго вартасць - зніжэнне дозы апраменьвання арганізма да ўзроўню натуральнага фону.

Дакладнае і своечасовае выкананне прынятага ў вобласці комплексу супрацьсухотных мерапрыемстваў дазваляе стрымаць распаўсюджванне хваробы.

У 1998 годзе назіраецца некаторая стабілізацыя, спыніўся (49,6 на 100 тысяч насельніцтва) рост паказчыка захворваемасці пры адносна добрай структуры выяўленых клінічных формаў сухотаў.

Агульналячэбная сетка і фтызіятрычная служба дастаткова падрыхтаваныя і абсталяваныя для ранняга выяўлення і лячэння хворых на сухоты.

Асноўнае значэнне ў ранім выяўленні сухотаў маюць перыядычныя рэнтгенафлюараграфічныя агляды, якія ў вобласці праводзяцца сярод насельніцтва старэйшага за 17 гадоў. Такія агляды вельмі неабходны для ранняга выяўлення хворых перадракавымі захворваннямі, а таксама хваробамі, што абумоўлены парушэннямі бранхіяльнай праходнасці, змяненнямі малюнку сасудаў лёгкага і міжсцення, захворванняў плеўры ды інш. Перш за ўсё прафілактычная флюараграфія праводзіцца ўсім асобам, якія ўпершыню ў дадзеным годзе звярнуліся ў медычныя ўстановы па медпамогу, незалежна ад часу папярэдняга агляду. Для абследавання здаровага насельніцтва ў вобласці практыкуюцца штогадовыя суцэльныя флюараграфічныя агляды на падставе флюараграфічнага ўліку з мэтай кантролю паўнаты ахопу прафаглядамі. Напрыклад, у 1998 годзе ў чатырох раёнах (Гарадзенскім, Івейскім, Свіслацкім, Смаргонскім) флюараграфічным метадам было абследавана ад 90 да 95 працэнтаў дарослага насельніцтва. Пры гэтым колькасць асобаў з выяўленай лёгачнай паталогіяй павялічылася ў 1,5-2 разы. Рост захворваемасці на сухоты ды іншыя лёгачныя захворванні ўсё больш заўважна звязваецца з павелічэннем колькасці прафаглядаў. У людзей замацавалася думка, што рызыка захворвання на сухоты ды інвалідызацыі нашмат перавышае небяспеку рэнтгенаўскага апраменьвання.

Акрамя таго, штогадовае флюараграфічнае абследаванне неабходна праходзіць і некаторым здаровым асобам з так званай групы рызыкі ў дачыненні захворвання на сухоты. Гэта здаровыя людзі, што маюць пэўныя змяненні ў лёгкіх і перанеслі ў мінулым сухоты, эксудатыўны плеўрыт. Да таго ж, асобы, якія кантактуюць з хворымі на бацылярныя сухоты; мужчыны ва ўзросце 40 гадоў і старэйшыя; асобы без акрэсленага месца жыхарства, якія вядуць асацыяльны лад жыцця; мігранты. А таксама хворыя, што пакутуюць на хранічныя захворванні органаў дыхання, язвавую хваробу страўніка і дванаццаціперснай кішкі, цукровы дыябет, хранічны алкагалізм і наркаманію, псіхічныя захворванні; а таксама ВІЧ-інфікаваныя; хворыя, якія атрымліваюць гарманальную тэрапію (асабліва пры бранхіяльнай астме, саркаідозе ды інш.). Штогод флюараграфічнае абследаванне належыць праходзіць і тым, хто пакутуе на хранічныя захворванні мочапалавой сістэмы, на радыкуліты і хранічныя захворванні апорна-рухальнага апарату; асобам з арганізаваных закрытых калектываў сацыяльнага прызначэння (дамы-інтэрнаты, прыёмнікі-размеркавальнікі і г.д.).

Адпаведна існуючаму стану, абавязковай штогадовай праверцы на сухоты з флюараграфічным абследаваннем падлягаюць і асобы «абавязковага кантынгента», якія ўяўляюць у выпадку захворвання на сухоты эпідэміялагічную небяспеку для супрацоўнікаў магчымасць заражэння, напрыклад, прадуктаў харчавання і г.д.

Кожны дарослы чалавек павінен раз у год прайсці флюараграфічнае абследаванне і быць спакойным за сваё здароўе.

**В.Чарнецкі,**
**галоўны спецыяліст УАЗ па фтызіятрыі**



# Зубры Белавежскай пушчы

**Зубр - жывы сучаснік маманта... Сцвярджаюць, быццам зубр захаваўся тут дзякуючы Белавежскай пушчы, а сама пушча - дзякуючы зубру, як яе гаспадару.**

...У 1276 годзе князь Уладзіміра-Валынскага княства Уладзімір Васільевіч вырашыў пабудаваць горад-крэпасць для абароны ад прэтэнзіяў паўночных суседзяў. Так і ўзнік горад Камянец, увянчаны пабудаванай тут Белай Вежай. Тады ж навакольныя лясы былі аб'яўлены своеасаблівым запаведнікам - адным з першых у Еўропе і свеце.

У XII-XIII стагоддзях у Белавежскай пушчы палявалі на зуброў рускія князі, у тым ліку і Уладзімір Манамах. У XIV стагоддзі - князі ВКЛ Гедымін, Альгерд, Кейстут, Ягайла, Вітаўт.

Напярэдадні першай сусветнай вайны ў пушчы налічвалася каля 700 зуброў. За гады імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў гэтыя жывёліны былі канчаткова знішчаны. Толькі ў 1929-1930 гг. сюды завезлі сем зуброў, купленых у Германіі і Швецыі. У 1941 годзе іх было ўжо дзевятнаццаць. У час вайны частка зуброў была знішчана акупантамі.

Цяпер на тэрыторыі Беларусі жыве каля 250 зуброў, у тым ліку прыкладна 20 - у Барысаўскім раёне (непадалёк ад Бярэзінскага запаведніка). Акрамя таго, у розныя раёны былога Саюза вывезена 114 жывёлін. Усяго ў СНД цяпер налічваецца звыш 800 зуброў, а ва ўсім свеце - звыш 2000.

Зубр - магутны, дужы, прыгожы насельнік пушчы. У даўжыню ён дасягае трох метраў, а яго маса - 900-1200 кілаграмаў. Малако самкі ўтрымлівае прыкладна 12 працэнтаў тлушчу. Статак налічвае каля 20 жывёлін, на чале якога стаіць... самка. Працягласць жыцця зуброў у сярэднім 25-30 гадоў.

**Юрый Шастак**

**На здымку: Вось ён - белавежскі зубр! Фота з асабістага сямейнага архіва аўтара**

# Які ў Вас сексуальны тонус?

**Выберыце з дадзеных ніжэй пар адказаў менавіта той, які Вам больш даспадобы, і пастаўце побач з прапанаванымі знакамі (+ і -) «плюс». Такім чынам, Вам больш падабаецца:**

1. Вялікі нос + маленькі -
2. Чалавек маўклівы - які крычыць ад радасці +
3. Таўстун + дахадзяга -
4. Твідавы пінжак - касцюм-тройка +
5. Цыгара + трубка -
6. Розум - пачуцці +
7. Прастата + дасведчанасць -
8. Свята ўдваіх - у кампаніі +
9. Пацалункі, пяшчота + флірт -
10. Сільвестр Сталоне - Вудзі Ален +
11. Трусы + кальсоны -
12. На «ты» - на «Вы» +
13. Авангард + традыцыі -
14. Каханак-сын (каханка-дачка) - каханак-бацька (каханка-маці) +
15. Гаспадар (гаспадыня) + раб (нявольніца) -
16. Не пазбаўлены артыстызму чалавек - сузіральнік +
17. Певень засмажаны + жывы -
18. Валасы на руках - на нагах +
19. Чалавек раўнівы + «дэмакратычны» -
20. Той (тая), хто ўмее самастойна меркаваць - канфарміст +
21. Паэт + абывацель -
22. Абжорлівы (ая) - гурман +
23. Той (тая), хто добра думае + хто прыгожа гаворыць -
24. Жвавае «жарабя» + стары «конь» -
25. Чалавек у футляры - душа грамадства +
26. Ахвяра + гвалтаўнік -
27. Той (тая), хто ўтрымлівае - каго ўтрымліваюць +
28. Характар адкрыты - замкнёны +
29. «Сава» + «Жаўрук» -
30. Той, хто не зацыкліваецца на праблемах - хто аб праблемах толькі і думае +




**Падвядзем вынікі**

Палічыце толькі тыя Вашы «плюсы», якія супалі з «плюсамі», прапанаванымі ў тэсце. На варыянты тыпу - + не звяртайце ўвагі. Калі пасля падліку ў Вас атрымалася ад 0 да 13 «плюсаў», то Ваш сексуальны тонус вельмі сціплы, калі «плюсаў» 14-16 - нармалёвы. А больш за 16 -у Вас сапраўды надзвычай высокі сексуальны тонус (і, відаць, гэта не адзінае, чым Вы можаце ганарыцца?).

**Падрыхтавала**
**Лана Юрына**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 1660 Наклад 4639
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 22.03.99 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадстаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: *Таццяна Лучыц*
Камп'ютарная вёрстка: *Аляксей Салей*